Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй.

Перамена адрэса 30 грошы.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 11. Вільня, Серада, 4-га лютага 1925 г. Год I.

## ГРАМАДЗЯНЕ! дамагайцеся для сваіх дзетак роднай беларускай школы!

## Інтэрпэляцыі Беларускага Пасольскага Клюбу.

**№ 135**—да п. Міністра Унутраных Спраў—у справе **канфіскацыі нумару 21 „Сялянскае Праўды“** з 16.XI.24 г.

Камісар Ураду на м. Вільню сканфіскаваў № 21 „Сялянскае Праўды“ за стацьцю „Нацыянальны Рэвалюцыянізм“ і карэспандэнцыю з Докшыцкае гміны, Дунілавіцкага пав., зьмест якіх ніжэй падаем:

### I. „Нацыянальны Рэвалюцыянізм.

Сярод польскага грамадзянства пануе пагляд на беларускае пытаньне, што пытаньне гэтае быццам то зьяўляецца не нацыянальным, а сацыяльным. Гэта гаворыць і польская лявіца, якая перакананa, што даволі беларускаму сялянству даць зямлю, і яно забудзецца аб сваей беларускасьці, і ахвотна кінецца ў абоймы „польскасьці“.

Што сацыяльны элемэнт іграе ў нашай справе вялікую вагу, аб гэтым ня можа быць ніякае спрэчкі. Але справа ў тым, што падыход лявіцы да гэтага пытаньня — аднабокі і нязгодны з істотай таго зьявішча, якое прадстаўляе беларускае *нацыянальне адраджэньне*.

Народ, у якім глыбака захаваны яго нацыянальныя асаблівасьці, — ня можа быць зьнішчаны. Нават тады, калі губляе сваю родную мову, ён не перастае жыць, і трэба толькі іскры, каб утоеная ў ім нацыянальная энэргія выявілася з выбуховай сілай. Так, ірляндцы даўно пераняли англійскі язык, блізу зусім забыўшыся свайго роднага, а тымчасам іх нацыянальная абасобленасьць ад запанаваўшых над імі англічан ня толькі ня счэзла, а, наадварот, давяла да запраўднае вайны, якая цераз сто з лішкам гадоў закончылася вызваленьнем Ірляндыі.

Ня зьнішчылі і беларускага народу ягоныя валадары, у працягу сталецьцяў забіраўшыя на службы сабе беларускую інтэлігенцыю, пераймаўшую чужую культуру і мову. Але прыйшоў час, і народныя масы збудзіліся з нацыянальнага сну. І прабуджэньне гэтае адбылося *выбухова—рэвалюцыйна*, пад грымоты расейскае палітычнае і сацыяльнае рэвалюцыі.

У Усходняй Беларусі адраджэнскі рух выліўся ў форме стварэньня ўласнае дзяржаўнае арганізацыі і шырокай культурна-нацыянальнай творчай працы. І гэтая самая рэвалюцыйная сіла нашага нацыянальнага руху, якая крышыла путы чужацкага панаваньня, *пасьля* здаваленьня сацыяльных дамаганьняў народу (—зямлі!) абярнулася ў сілу не руйнуючую, а *творачую*,—творачую культурныя цэннасьці. Найбольш характэрным з гэтага пагляду зьяўляецца стварэньне ў Менску — сучаснай сталіцы Усходняе Беларусі — *Беларускае Акадэміі Навук*.

Інакш стаіць справа на Захадзе. У Заходняй Беларусі, гдзе—пад уладай Польшчы—ня толькі не здаваляюцца нашыя сацыяльныя дамаганьні, але і нішчыцца нашая культура,—беларускі *нацыяльны* рух ніяк ня можа ўліцца ў русло мірнае творчае культурнае працы. Гэтая дарога перад ім *зачынена*. І вось, уся тая нацыянальная творчая энэргія, якая, пасьля выбуху яе, ператварылася ў культурную працу на Усходзе,—тут, на Захадзе, *расьце пад прэсам*, кондэнсуецца, згушчаецца і набірае ўсё больш і больш рэвалюцыйнае сілы.

Рэвалюцыйнае напружаньне ў Заходняй Беларусі мае пад сабой, бязспрэчна, і грунт сацыяльны, — і апошні ў гэты мамэнт выяўляецца з ня меншай сілай, як нацыянальны рэвалюцыянізм. Але той прыклад, які дае Усход, дзе іменна пасьля сацыяльнае рэвалюцыі пачаўся буйны расцьвет беларускага нацыянальнага руху, зьяўляецца найлепшым доказам, што і ў Заходняй Беларусі тыя, ці іншыя ўступкі сацыяльнага характару ніколі ня здолеюць аслабіць напружаньне нацыянальнага рэвалюцыянізму.

Мы затрымаліся тут на гэтым пытаньні затым, што ў складзе польскага ўраду робяцца перамены, якія пазваляюць спадзявацца ўступак з яго боку іменна сацыяльнага характару. Уваход у склад габінэту п. Грабскага нядаўнага лідэра „Вызваленьня“, п. Тугутта, як віцэ-старшыні ўраду, найлепш гэта пацьвярджае: бо-ж знамянітыя „тугуттаўскія“ законы аб мове беларускай у адміністрацыі і школе аказаліся пустым гукам і паказалі ясна, што ў *нацыянальным пытаньні* п Тугутт з сваімі „вызваленцамі“, як і ўся лявіца наагул (— праўда, без камуністаў), ідзе тым самым шляхам, як і ўсе другія польскія партіі—цэнтравыя і правыя.

Вось, у гэты мамэнт мы і лічым патрэбным асабліва адзначыць вагу беларускага *нацыянальнага рэвалюцыянізму*, якога не здаволяць ніякія дробныя сацыяльныя ўступкі з боку ўлады (—аб паважных уступках, ведама, няма што і казаць, бо іх ня будзе!). І далейшы націск польскае дзяржаўнасьці, іменна ў кірунку падаўленьня беларускіх нацыянальных імкненьняў, толькі будзе павялічываць іх сілу і адпорнасьць.

### 2. „Расправа самасудам.

(*Докшыцкая гм., Дунілавіцкага пав.*).

У в. Касьцюках, нашай гміны, уноч з 22 на 23 кастрычніка, паліцыя забіла ў хаце на сьмерць стрэламі з рэвальвера дэзэртыра, — жыхара гэтай вёскі, Уладзімера Касьцюка.

Нашая паліцыя добра знаець, што кожнаму чалавеку раней ці пазьней трэба адпраўляцца туды, гдзе няма „ні хворасьцяў ні сумаваньня“, дык і не клапаціцца перадаваць гэткае „bydła“ суду.

**Тутэйшы.**

Дзеля вышэйсказанага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. Міністра:

1) Ці маніцца зьняць арышт з № 21 „Сялянскае Праўды“?

Варшава, 4 сьнежня 1924 г.

**№ 136** — да п. Міністра Унутраных Спраў — у справе **нарушэньня Дэлегата Ураду** на м. Вільню **арт. 104 Канстытуцыі.**

11 лістапада с. г. сэнатарам Багдановічам, як старшынёй Філянтрапійнага Т-ва, была пададзена п. Камісару Ураду на м. Вільню просьба аб дазволе ўладзіць на мэты прытулку лекцыю на тэму: „Праваслаўная Царква ў Польшчы, Расеі і заграніцай“.

Камісар Ураду разьвязаў гэту справу адмоўна. Пададзены ў гэтай справе рэкурс да Дэлегата Ураду таксама быў адкінуты.

Лічучы такое паступаньне Дэлегата Ураду і Камісара Ураду неабаснованым і нарушаючым арт. 104 Канстытуцыі, а так-жа абастраючым рэлігійныя адносіны на так-званых „Крэсах“, інтэрпэлянты пытаюцца ў п. Міністра:

1) ці ён гатоў даць выясьненьне, на якой падставе забаравілі сэнатару Багдановічу зрабіць лекцыю?

2) ці маніцца ўрад загадаць падлягаючым яму ўстановам даць дазвол на ўстройства лекцыі аб сказанай справе?

Варшава, 3 сьнежня 1924 г.

**№ 137** — да п. Старшыні Рады Міністраў — у справе **перасьледаваньня і зачыняньня беларускіх народных школаў.**

Ня так даўно, бо толькі вясной сёлетняга году, Урад падаў у Сойм праекты т.-зв. языковых уставаў, якія, дзякуючы ўрадавым заходам, былі зацьверджаны нязвычайна хутка.

Яшчэ сьвежыя ў памяці ўражаньні ад самага способу правядзеньня гэтых уставаў, ад соймавае дыскусіі, урадавых заяваў, ды ад становішча, якое меншасьцёвыя клюбы занялі ў адносінах да сказаных уставаў. Добра памятны і той факт, што Урад, як і адносныя соймавыя дакладчыкі, стараліся пераканаць (каго?), што языковыя ўставы — гэта першы крок да паразуменьня з меншасьцямі, гэта крок у кірунку разьвязаньня нацыянальнага пытаньня ў Польшчы, згодна з Канстытуцыяй і абязываючымі трактатамі.

Тымчасам, ня гледзячы на гэтыя завярэньні і прыняцьце языковых уставаў, Урад распачаў перасьледаваньне беларускіх школаў. Ужо да 1 кастрычніка— абязываючага для школьнага ўставу тэрміну — Урад паруліўся зачыніць усе істнуючыя беларускія народныя школы, ператвараючы іх у школы польскія, ды звальняючы ці пераводзячы ў польскія школы беларускіх вучыцялёў.

Ніжэй падаем некалькі прыкладаў зачыняньня беларускіх народных школаў перад пачаткам 1924—25 школьнага году.

1. Школьны інспэктар Сьвянцянскага пав. зачыніў дзьве істнаваўшыя датуль беларускія школы ў вёсках Ялажычы і Кавалі. Повадам зьліквідаваньня беларускае школы ў в. Ялажыцы была быццам-то адсутнасьць у вучыцелькі Л. Чайкоўскай дастатачнага знаёмства з польскай мовай. Калі-б гэта было запраўднай прычынай, дык школьны інспэктар мог-бы ўзяць на яе месца другога, выкваліфікаванага вучыцеля, або перанесьці ў беларускую школу вучыцеля-беларуса з польскае школы. Калі народ пасьля закрыцьця беларускае школы не хацеў пасылаць сваіх дзяцей у польскую школу, дык школьны інспэктар пачаў накладаць кары грашмі.

2. Беларуская школа ў вёсцы Кавалі ператворана ў польскую такім способам, што талентных і в. здольных беларускіх вучыцялёў п. Сіняка і ягоную жонку п. школьны інспэктар перанёс у школу польска-літоўскую, а на іх месца выпісаў з Галіччыны двух польскіх вучыцялёў, каторыя зусім ня ведаюць роднае мовы дзяцей, якіх мусяць вучыць.

3. У вёсцы Сычавічах, Радашкоўскае гміны, Вялейскага павету, гэтак сама зьліквідавана беларуская школа праз назначэньне польскае вучыцелькі.

Гэтак Урадам зьліквідаваны апошнія 27 беларускіх народных школаў, істнаваўшых у мінулым годзе. Калі ў сувязі з гэтым усьвядомім сабе, што за

